№ 163 (1976)

Чацвер, 2 верасня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля»

Кошт свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +16...+18, сонечна, уначы — +12...+14, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +17...+19, сонечна, уначы — +10...+12, без ападкаў; у Гродне ўдзень — +17...+19, уначы — +10...+12, на працягу сутак — без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +13...+15, дождж, уначы — +11...+13, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +15...+17, уначы — +12...+14, на працягу сутак — без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +15...+17, уначы — +13...+15, на працягу сутак — без ападкаў.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Жнівень. Цэны пайшлі ў рост

**На 0,1 працэнта выраслі спажывецкія цэны ў Беларусі за першыя тры тыдні жніўня, паведамілі БелаПАН у Міністэрстве статыстыкі і аналізу (за першы тыдзень — знізіліся на 0,2 працэнта, за другі — выраслі на 0,1, за трэці — на 0,2).**

Для параўнання: за першыя тры тыдні ліпеня цэны павялічыліся на 1,4 працэнта, за першыя тры тыдні жніўня 2003 года — на 0,3 працэнта.

З пачатку года спажывецкія цэны павысіліся на 9,2 працэнта (за аналагічны перыяд мінулага года — на 16,6).

Афіцыйны прагноз інфляцыі на 2004 год складае 14 — 18 працэнтаў. Такім чынам, прагноз "выкананы" на 66 працэнтаў па ніжняй планцы і на 51 працэнт па верхняй.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Пікет дазволяць?

**Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў (БКДП) накіраваў у Мінгарвыканкам заяўку на правядзенне 29 верасня пікета на Кастрычніцкай плошчы сталіцы. Акцыя арганізуецца з мэтай выказвання пратэсту дзеянням уладаў, якія сістэматычна парушаюць правы прафсаюзаў, паведамляюць арганізатары пікета.**

Асаблівую заклапочанасць у іх выклікаюць падрыхтаваныя Міністэрствам юстыцыі змяненні і дапаўненні ў Закон аб прафсаюзах, якія, на думку БКДП, могуць прывесці да ліквідацыі незалежнага прафсаюзнага руху ў краіне.

Мінюст, у прыватнасці, прапануе у шмат разоў павялічыць норму для стварэння рэспубліканскага прафсаюза — з 500 да 30 тысяч членаў. Уводзіцца таксама паняцце тэрытарыяльнага прафсаюза, які, згодна з законапраектам, павінен аб'яднаць не менш як 5 тысяч членаў у адной ці некалькіх абласцях, і мясцовага прафсаюза, які павінен аб'яднаць работнікаў адной арганізацыі ці некалькіх арганізацый, што знаходзяцца на тэрыторыі аднаго раёна (горада).

**Ірына ЛЕЎШЫНА.**

## Працэс пайшоў

**Учора ў Беларусі ў школу пайшлі 1 млн. 347 тысяч 157 чалавек.**

Як паведамілі ва ўпраўленні агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі, сёлета за вучнёўскія парты ўпершыню селі больш за 91 тысячу 880 дзяцей, у той час як летась — 90 тысяч. Адным з новаўвядзенняў гэтага навучальнага года стала нумарацыя класаў агульнаадукацыйнай школы з 12-гадовым тэрмінам навучання: замест падрыхтоўчага дзеці будуць пастулаць у 1 клас. Такім чынам, абавязковая базавая адукацыя ўключае ў сябе першую ступень — 1-4 класы пачатковай школы і другую — 5—10 класы. Трэцяя ступень навучання — 11-12 класы — уяўляе сабой профільную старэйшую школу.

Акрамя гэтага, сёлета ў праграму першага класа ўведзены новы прадмет — "Фізкультура і здароўе". Акрамя гэтага, першакласнікі стануць вывучаць дзве дзяржаўныя мовы — беларускую і рускую.

Традыцыйна ўсе першакласнікі забяспечваюцца падручнікамі бясплатна. У цэлым да пачатку навучальнага года выдадзена 160 найменняў падручнікаў. Сёлета ўпершыню выдадзены падручнік "Асновы бяспекі жыццядзейнасці". Да 60-годдзя Перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі прымеркавана выданне кнігі "Вялікай Айчынная вайна савецкага народа ў кантэксце Другой сусветнай вайны".

Плата за карыстанне камплектаў падручнікаў у новым навучальным годзе складае ад 2 тысяч 420 рублёў да 10 тысяч 850 рублёў у залежнасці ад класа.

## На тры месяцы — не больш...

**Распараджэннем галоўнага дзяржаўнага санітарнага ўрача Беларусі — намесніка міністра аховы здароўя Міхаіла Рымжы абмежаваны тэрмін дзеяння ліцэнзій на дзейнасць у галіне медыцынскіх паслуг насельніцтву.**

Галоўным дзяржаўным санітарным урачам адміністрацыйных тэрыторый даручана выдаваць суіскальнікам ліцэнзій і ліцэнзіятам гігіенічныя заключэнні на права атрымання ліцэнзій з абавязковым указаннем тэрміну іх дзеяння — не больш чым на тры месяцы.

Згаданыя меры прыняты з мэтай выпрацоўкі адзіных падыходаў да выдачы тэрытарыяльнымі ўстановамі санітарна-эпідэміялагічнай службы гігіенічных заключэнняў на права атрымання ліцэнзій.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## Назіральнікі рыхтуюцца ўжо зараз

**Плануецца, што місія назіральнікаў ад Садружнасці Незалежных Дзяржаў на выбарах у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі пачне сваю працу ў Мінску напрыканцы гэтага — пачатку наступнага тыдня. Аб гэтым паведаміў памочнік першага намесніка старшыні Выканаўчага камітэта СНД Алег Кулеба.**

Ен таксама расказаў, што назіральнікі прыбудуць у Мінск за некалькі дзён да 17 кастрычніка — дня галасавання. Супрацоўнікі місіі азнаёмяць іх з планам правядзення назірання, арганізуюць у групы, пасля чаго прадстаўнікі краін Садружнасці выедуць для непасрэднай працы ў рэгіёны краіны.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

**ДИПЛОМАТИЧЕСКИЙ КЛУБ**

*Джордж КРОЛ:*

# «Чем больше времени я нахожусь в Беларуси, тем больше меня охватывает желание знать больше и понимать больше о сложностях жизни, менталитете и истории белорусов»

*С Чрезвычайным и Полномочным Послом Соединенных Штатов Америки в Республике Беларусь журналист "Народной воли"* ***Александр СИЛИЧ*** *беседует не только о политике...*

**— Хочу, г-н Посол, сразу напомнить тот факт, что еще на заре независимости Беларуси именно США стали гарантом нашего суверенитета, признав молодое государство — Республику Беларусь. Но во времена, когда и так близкие отношения между руководствами Беларуси и России приближались, я бы сказал, к "интимным", что-то было незаметно активности американского высшего руководства воспользоваться правами гаранта суверенитета нашей Родины. Не было даже попытки американской стороны обсудить "белорусский вопрос" с руководством России. Будет ли, на Ваш взгляд, предпринята такая попытка в дальнейшем или все останется так как есть?**

— Прежде всего, я хотел бы высказаться о том, что касается вопроса гарантий независимости Беларуси. США в свое время заключили с Россией и Соединенным Королевством Великобритании договор о признании суверенитета Республики Беларусь (и это является долгосрочной политикой США), а также о том, что эти гарантии будут реализовываться через различные международные документы ООН.

Что касается обсуждения, как Вы сказали, "белорусского вопроса" с руководством России, то Соединенные Штаты никогда не строили и не строят свою политику по отношению к Беларуси в зависимости от позиции России. Обсуждая с руководством России региональные проблемы, американская сторона затрагивает и вопросы, связанные с Беларусью. Но какого-то специального обсуждения "белорусского вопроса" не было. Позиция США всегда была достаточно понятной и твердой: мы поддерживаем территориальную целостность, суверенитет и независимость Беларуси.

**— В этой связи, не секрет, что в одном из своих недавних выступлений президент США Джордж Буш пообещал Александру Лукашенко "горячее лето". Так во всяком случае передавали некоторые интернет-издания. Как Вы думаете, что это значит? Лето закончилось, а высокая температура наблюдается исключительно на термометре...**

— Я не припомню, чтобы президент Буш говорил нечто подобное. Поэтому не могу дать на этот счет никаких комментариев.

**— Войны в Афганистане и Ираке сильно пошатнули рейтинг нынешнего президента США. Если в ноябре этого года у вас будет новый президент, например, демократ Джон Керри, не изменится ли политика США по отношению к Беларуси, а если изменится, то в какую сторону?**

— Сейчас трудно предугадать, кто победит на ближайших выборах в США — останется Джордж Буш в Белом доме или же будет сформирована новая администрация. На самом деле трудно предположить, какова будет политика новой администрации по отношению к Беларуси. Однако, если судить по последним десяти годам — и во времена демократа Клинтона, и республиканца Буша — политика США по отношению к Беларуси не менялась. И я думаю, не будет никаких драматических изменений в этой политике в будущем. Эта политика будет и впредь базироваться на долгосрочной, незыблемой стратегии поддержки независимой и суверенной Беларуси и на бессменном желании видеть Беларусь экономически процветающим и сильным демократическим государством, полностью интегрированным в трансатлантическое сообщество наций. Как вы хорошо знаете, за эти последние десять лет мы в США не наблюдаем развития Беларуси в направлении сильного демократического государства с рыночной экономикой, интегрированной в экономику стран-соседей. И все из-за политики, которую проводят белорусские власти. Я думаю, что руководство США и далее будет пытаться убедить белорусские власти, а также продолжит работу с белорусской общественностью в направлении развития демократического общества и экономики, которая



станет частью общих экономических тенденций в регионе. Все это, безусловно, лежит в сфере интересов Соединенных Штатов и, надеюсь, в сфере интересов Беларуси.

Сенатор Джон Керри, который претендует сейчас на пост президента, как вы наверняка знаете, является одним из сторонников принятия "Акта о демократии в Беларуси". Похоже, что у него даже как у сенатора есть большой интерес к вашей стране В Конгрессе США также есть настроения поддерживать демократическое и экономическое развитие Беларуси.

**— Ваш прогноз: кто победит на ноябрьских выборах — Джон Керри или Джордж Буш?**

— Сейчас очень трудно предугадать окончательный результат. Опросы общественного мнения, а также оценки специалистов показывают, что оба кандидата — Керри и Буш — идут след в след.

**— Недавно один из комиссаров Еврокомиссии опубликовал в западноевропейской прессе материал о том, что в Европе должна быть буферная зона, Беларусь, мол, вообще не следует тянуть в ЕС. Вместе с тем просачиваются сведения, что одновременно в Европе ужесточаются требования к беженцам из Беларуси, что их якобы будут высылать. Не считаете ли Вы такую политику недальновидной и циничной? В Беларуси ужесточается давление на все институты общества, а ЕС отгораживается от нас высоким забором...**

— Если рассматривать политику Соединенных Штатов и Евросоюза по отношению к Беларуси, то мы на самом деле близко ее координируем. Эта политика — одна и та же, без принципиальных различий. Вот ее основные принципы: поддержка развития в Беларуси демократического общества и рыночной экономики. Беларусь — часть Европы, которая должна строить дружеские, взаимовыгодные отношения со странами-соседями, а также с США — как с очень дальним соседом *(смеется)*. И Евросоюз, и США уважают независимость и суверенитет Беларуси, права ее граждан, среди которых — право свободно принимать решения, право выбирать свое будущее. И ЕС, и США хотели бы, чтобы беларусы были услышаны, а их мнение было бы учтено справедливым, демократическим способом. Я ничего не слышал о тех случаях, которые вы упомянули, — что ЕС якобы не благоволит к белорусским беженцам. В Евросоюзе, насколько я знаю, нет какой-то особой политики по отношению к беженцам из Беларуси...

*(Окончание на 2-й стр.)*

**СКАНДАЛ**

***Мікалай ЖУРАЎСКІ, генеральны дырэктар гатэля "Мінск":***

## «Адбылася недарэчнасць»

**Як паведамляла ўжо "Народная воля", у нядзелю дэлегатаў Аб'яднанай грамадзянскай партыі не пусцілі ў канферэнц-залу гатэля "Мінск", дзе павінен быў адбыцца з'езд партыі па вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты. АГП загадзя аплаціла памяшканне, але супрацоўнікі службы бяспекі гатэля, спаслаўшыся на адсутнасць дамовы з подпісам кіраўніцтва, дэлегатам уваход забаранілі. Абураныя палітыкі падалі скаргу ў пракуратуру.**

*— Адбылася недарэчнасць,* — кажа Мікалай Жураўскі. — *Кіраўніцтва АГП напярэдадні мерапрыемства даслала факс з просьбай забраніраваць на 29 жніўня канферэнц-залу на 50 асобаў. Наш малады супрацоўнік, не ўзгадніўшы гэтую паперу з кіраўніцтвам гатэля, не паставіўшы аніякіх рэзалюцый, выпісаў рахунак і зноў жа па факсе даслаў яго прадстаўнікам АГП. Партыя заплаціла грошы. Але ў нас ёсць пэўнае правіла: спачатку накладаецца рэзалюцыя дырэктара альбо намесніка гатэля, пасля падпісваецца дамова паміж бакамі і толькі затым ужо вырашаюцца грашовыя пытанні. Супрацоўнік, па нявопытнасці не разабраўшыся ў сітуацыі, перавысіў свае паўнамоцтвы... І калі ён высветліў нарэшце, што з паперамі не ўсё добра, загадзя патэлефанаваў у офіс АГП і паведаміў, што наладзіць мерапрыемства наўрад ці атрымаецца.*

*У партыі быў час прыняць неабходныя захады дзеля таго, каб пазбегнуць такой непрыемнай сітуацыі. І мне крыху незразумела, чаму АГП гэтага не зрабіла і ні разу не патэлефанавала асабіста мне, дырэктару.*

*Сітуацыя, канешне, вельмі прыкрая. На жаль, з'езд быў запланаваны на выхадныя, і з кіраўніцтва гатэля "Мінск" у гэты час нікога не было на месцы. Вы зразумейце, што ў нас ёсць пэўныя правілы, у адпаведнасці з якімі мы праводзім усе мерапрыемствы, і парушаць іх нельга нікому. Тут ужо пайшлі абвінавачванні ў палітычных намерах і адмысловых дзеяннях з боку гатэля. Я б вельмі хацеў падкрэсліць, што ніякай палітычнай падаплёкі ў тым, што адбылося, няма. Гэта праблема чыста тэхнічнага характару, бакі не ўзгаднілі механізм афармлення дакументаў. Мы для ўсіх адкрыты... У канферэнц-зале нашага гатэля даволі часта праводзяцца з'езды палітычных партый розных накірункаў, і ніколі мы не чулі ніякіх папрокаў. Намі падпісана 13 дамоваў з прадстаўніцтвам ААН аб правядзенні мерапрыемстваў, ніякай заўзятасці і непрыязні да гасцей і дэлегатаў кіраўніцтва гатэля "Мінск" не мае.*

*Я ўжо папрасіў прабачэння ў намесніка старшыні АГП Сяргея Альфера. Грошы партыі мы вярнулі.*

***Сяргей АЛЬФЕР, намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі:***

## «Накіравалі скаргу ў пракуратуру»

*— Тэлефанаванняў напярэдадні з'езда з боку гатэля "Мінск" да нас не паступала. Гэта я магу сказаць дакладна. Тое ж самае наконт грошай: на ўчарашні дзень ніякіх грашовых сродкаў да нас не паступала. Усе тыя тлумачэнні, якія мы зараз чуем, не вытрымліваюць аніякай крытыкі. Я неаднойчы быў сведкам з'ездаў многіх партый, якія праводзілі свае мерапрыемствы менавіта ў канферэнц-зале "Мінска", і магу сказаць, што многія з іх афармлялі дакументы па такім жа механізме, што і мы. Зараз кіраўніцтва "Мінска" спрабуе перакласці ўсё на плечы "нявопытнага супрацоўніка", але перамовы наконт арганізацыі мерапрыемства мы вялі ў тым ліку і з банкетнай службай. І я б сказаў, з даволі вопытнымі жанчынамі, а не з маладым супрацоўнікам. Я прыязджаў у гатэль асабіста і ўзгадняў парадак правядзення з'езда, якое будзе абсталяванне ў зале і гэтак далей. У нас ёсць рахункі з подпісам бухгалтэрыі "Мінска" і рэстарана гатэля аб аплаце залы для з'езда і правядзенні кавы-паўзы.*

*Пазаўчора скаргі аб супрацьпраўных дзеяннях кіраўніцтва гатэля "Мінск" мы накіравалі ў пракуратуру і аддзел барацьбы з эканамічнымі злачынствамі Маскоўскага раёна Мінска. Аб'яднаная грамадзянская партыя лічыць, што было парушана іх права на волевыяўленне, учынены перашкоды для дзейнасці грамадскай арганізацыі. У дзеяннях кіраўніцтва гатэля мы бачым яскравыя прыкметы махлярства. Пра сітуацыю вакол з'езда мы праінфармавалі Цэнтрвыбаркам і Мінюст. Ліст з патрабаваннем патлумачыць свае дзеянні быў дасланы і кіраўніцтву гатэля "Мінск".*

**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**

# Ці ёсць у Беларусі свой Лех Валенса?

**Вячаслаў ОРГІШ,**
**доктар філасофскіх навук**

Як вядома, у Польшчы барацьба з камуністычнай дыктатурай стала эфектыўнай тады, калі ў краіне разгарнула сваю дзейнасць "Салідарнасць". Менавіта гэтая прафсаюзная арганізацыя стала каардынатарам намаганняў польскай дэмакратыі, скіраваных на дэмакратычную перабудову польскага грамадства. У "Салідарнасці" палякі ўбачылі свайго роду сцяганосца польскага супраціўлення пракамуністычнаму рэжыму, нейкую маральную інстанцыю, якая разам з касцёлам здольна накіроўваць энергію грамадскага стварэння ў рэчышча еўрапейкіх гаспадарчых і культурных традыцый.

А пачалося з таго, што ў жніўні 1980 года невялікая група рабочых актывістаў гданьскай судаверфі сабралася разам і заснавала незалежны прафсаюз, а яго лідэрам абрала электрыка Леха Валенсу.

Хацелася б верыць у тое, што падзея, якая адбылася ў Мінску 31 жніўня, утрымлівае ў сабе нешта сімвалічнае, па духу і наступствах можа быць параўнана з польскай "Салідарнасцю". У гэты дзень група мінскай інтэлігенцыі прыкладна з 15 чалавек, у сваёй большасці прадстаўляючы раду беларускай інтэлігенцыі, сабралася, каб папрацаваць над стварэннем камітэта **"За справядлівыя выбары"**. У беларускім грамадстве даўно наспела патрэба арганізаваць нейкую грамадскую інстанцыю, якая б узяла на сябе функцыю публічнага апанента і крытыка афіцыйнай сістэмы рэгулярнага папірання дэмакратычных норм і працэдур у Беларусі. Маючыя адбыцца ў кастрычніку парламенцкія выбары — выпадак, які вельмі падыходзіць для таго, каб аб'яднаць беларускае грамадства ў барацьбе за дэмакратыю ў яе канкрэтных праявах.

Выканаўчая ўлада, выкарыстоўваючы неабмежаваны адміністратыўны рэсурс, будзе рабіць усё, каб набраць 17 кастрычніка "кішэнны" парламент, не прапусціць у яго апазіцыю.

Што гэтаму супрацьпаставіць?

Грамадскае назіранне і публічнае выкрыванне супрацьзаконных і антыдэмакратычных дзеянняў рэжыму. Гэтую надзвычай неабходную работу і можа ўзначаліць камітэт "За справядлівыя выбары". Так, па крайняй меры, думаюць ініцыятары яго стварэння. Справа ў тым, што практыка назірання за выбарамі з боку грамадскасці ў краіне склалася даўно. "Беларускі Хельсінкскі камітэт", незарэгістраваныя "Хартыя'97" і "Вясна" — грамадскія арганізацыі, якія выконваюць гэтую работу ў рэжыме маніторынгу ўжо шмат гадоў.

Аднак адзінай сістэмы грамадскага кантролю выбараў у Беларусі пакуль няма. Згодна з задумкай ствараемы камітэт павінен узяць на сябе ролю каардынатара намаганняў грамадскасці, маючай намер здзейсніць кантроль за ажыццяўленнем дэмакратычных норм і працэдур у ходзе восеньскіх парламенцкіх выбараў, а таксама прэзідэнцкіх выбараў 2006 года.

Ідэйным натхняльнікам стварэння камітэта "За справядлівыя выбары" выступіў дэпутат парламента генерал **Валерый ФРАЛОЎ**, які ў апошнія паўтара года рашуча спрабуе актывізаваць і аб'яднаць намаганні апазіцыі (у ствараемы камітэт ён пакуль уваходзіць не будзе, паколькі балатуецца на парламенцкіх выбарах).

Пісьменнік **Сяргей ЗАКОННІКАЎ**, палемізуючы з генералам, заўважыў: за апошнія гады колькі гэтых камітэтаў, рухаў настваралі! А што толку? Дзе вынік? Народ слаба рэагуе на ініцыятывы апанентаў рэжыму.

На гэта Валерый Фралоў адказаў наступным чынам. Калі не варушыцца, дык наогул нічога не атрымаецца. Жаба (у вядомай гісторыі) здолела выпаўзці з глячыка з малаком толькі таму, што ўвесь час малаціла лапкамі. І ў рэшце рэшт збіла масла, узлезшы на якое здолела выбрацца з глячыка.

Увогуле працэнт скептыкаў сярод сабраўшыхся быў значным. Тым не менш пераважыў на дадзеным этапе разлік на тое, што чарговая задумка апазіцыі не праваліцца. Як рэзонна заўважыў **Уладзімір КОЛАС**, старшыня рады беларускай інтэлігенцыі, не памыляецца той, хто нічога не робіць, а толькі крытыкуе. Аднак беларуская інтэлігенцыя не можа сабе дазволіць сядзець склаўшы рукі. Нашчадкі ёй гэтага не даруюць.

Спыніліся на тым, што працу па стварэнні камітэта варта працягнуць. Для гэтага трэба ўдакладніць спіс тых, хто ў яго ўвойдзе, а таксама стварыць выканкам, які возьме на сябе функцыі непасрэднага каардынатара работы камітэта. Пытанне аб беларускім Леху Валенсе засталося адкрытым. Яго ролю прапанавалі сыграць **Аляксандру ВАЙТОВІЧУ**. Былы старшыня Савета Рэспублікі папрасіў час на абдумванне прапановы да пятніцы, калі збярэцца чарговае пасяджэнне ініцыятыўнай групы.

**ДАСЛОЎНА**

*Леў МАРГОЛІН:*

## «У датэрміновым галасаванні павінна прыняць удзел ад 30 да 50 працэнтаў выбаршчыкаў»

Апошнім часам улады Барысава праводзяць шмат нарад, прысвечаных парламенцкім выбарам. На адной з такіх нарад нават прысутнічаў намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта **Алег Праляскоўскі**.

За дзеяннямі ўлад Барысава пільна сочыць прадпрымальнік, які мае намер стаць дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, **Леў Марголін.**

*"Некалькі дзён таму ў выканкаме зноў адбылася нарада са старшынямі ўчастковых камісій і кіраўнікамі прадпрыемстваў,* — гаворыць Леў Фёдаравіч. — *Там было сказана, што ў датэрміновым галасаванні павінна прыняць удзел ад 30 да 50 працэнтаў выбаршчыкаў. Прагучала, што перш за ўсё датэрмінова прагаласаваць павінны ваенныя і студэнты. Аднак самай жорсткай у ідэалагічным плане была нарада, якая праходзіла ў Палацы культуры. Там нават называлі прозвішчы прадстаўнікоў апазіцыі, якіх ніякім чынам нельга дапусціць да перамогі".*

Старшыня барысаўскага гарвыканкама **Васіль Бургун** у інтэрв'ю Радые Свабода заявіў, што нічога незаконнага падчас выбарчай кампаніі ў ягоным горадзе не адбываецца.

*"Няпраўда, хлусяць, гэта было пасяджэнне гарвыканкама з парадкам дня "Стан ідэалагічнай працы ў горадзе Барысаве", хай патэнцыйныя кандыдаты не выдумляюць...",* — сказаў ён.

Васіль Бургун гаворыць, што ніякай размовы пра тое, каб было нейкае заданне правесці выбары ў адзін тур пры 30—50 працэнтнай датэрміновай яўцы выбаршчыкаў, таксама не было.

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

**ГАЗЕТА — ЧЫТАЧЫ**

# Не здрадзім!

Шаноўныя чытачы!

Дамаўляемся: Вы і надалей не здрадзіце "Народнай волі", а "Народная воля", у сваю чаргу, не здрадзіць Вам. Калектыў рэдакцыі зробіць усё магчымае, каб газета была яшчэ больш цікавай і змястоўнай. Мы служым толькі аднаму Богу — ПРАЎДЗЕ.

Будзем разам і ў чацвёртым квартале 2004 года. Не спазніцеся з падпіскай, калі яна ў Вас заканчваецца ў верасні.

Вы ведаеце, якія падзеі чакаюць усіх нас у кастрычніку. Ды і потым краіна будзе жыць па незвычайным календары — наперадзе прэзідэнцкія выбары. "Народная воля" павінна стаць вашай настольнай газетай.

Разам — у заўтрашні дзень!

**Рэдакцыя газеты "Народная воля".**

**ЭКСКЛЮЗІЎ**

***Йонас ПАСЛАЎСКАС, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Літоўскай Рэспублікі ў Беларусі:***

## «Гэта асаблівы гонар для Літвы»

***З 1 верасня літоўская амбасада ў Беларусі пачынае выконваць функцыі кантактнай амбасады НАТО ў нашай краіне.***

Сетка такіх кантактных пунктаў Паўночна-Атлантычнага альянса ў краінах-партнёрах НАТО, якой з'яўляецца і Беларусь, існуе з 1992 года. Кантактная амбасада — нефармальнае прадстаўніцтва альянса. Яго абавязкі — інфармаваць грамадскасць краін-партнёраў, якіх, дарэчы больш за 20, аб дзейнасці блока і яго мэтах.

Да літоўскай амбасады функцыі кантактнай амбасады НАТО ў Беларусі выконвала пасольства Турэцкай рэспублікі, яшчэ раней — амбасады Польшчы, Італіі. І вось зараз, згодна з рашэннем Савета НАТО, гэтая функцыя даручана Літоўскай амбасадзе. Як вядома, Літва толькі нядаўна, у сакавіку гэтага года стала паўнапраўным членам НАТО.

*— Кіраўніцтва нашай краіны вельмі сур'ёзна ставіцца да такога адказнага даручэння Паўночна-Атлантычнага альянса,* — сказаў у інтэрв'ю "Народнай волі" Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Літоўскай Рэспублікі ў Беларусі **Йонас ПАСЛАЎСКАС.** — *Для Літвы гэта асаблівы гонар, гэта заслужаная ацэнка шматгадовай працы Літвы з суседзямі на Усходзе. Больш таго, на мой погляд, гэта яшчэ і ацэнка палітыкі Літвы, падрыхтаванасці краіны быць членам НАТО і ацэнка нашых намаганняў як члена альянса быць не толькі краінай-спажыўцом, але і краінай, якая распаўсюджвае бяспечнасць і стабільнасць. Як вядома, Літва ўдзельнічае ў многіх аперацыях НАТО. Я таксама мяркую, што гэта і ацэнка працы амбасады Літвы ў Беларусі — нашага калектыву, умоў працы.*



*З 1 верасня ў нашай амбасадзе ў Мінску пачаў працаваць першы ваенны аташэ Літвы, падпалкоўнік* ***Альвідас Даменас****. МЗС Літвы хутка накіруе ў Беларусь яшчэ аднаго дыпламата, які будзе дапамагаць нам працаваць у гэтым накірунку.*

*Дзейнасць амбасады будзе вельмі разнастайнай. Першы блок працы — інфармацыйны. Мы ставім мэту расказаць аб палітыцы НАТО беларускай грамадскасці, акадэмічным установам, няўрадавым арганізацыям. Будзем цесна супрацоўнічаць з урадавымі структурамі Беларусі, і некаторыя накірункі гэтай працы мы ўжо абмеркавалі.*

*Таксама мы плануем правядзенне канферэнцый і семінараў па натаўскай тэматыцы. Магчыма, штаб-кватэру НАТО альбо адну з краін альянса наведаюць беларускія журналісты.*

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

Народная Воля
2 ВЕРАСНЯ 2004 г.

СУСТРЭЧА

Ларыса СІМАКОВІЧ, кіраўнік фальклор-тэатра «Госьціца»:

# «У жыцці не хапае высокіх матэрый...»



*Беларускі фальклор-тэатр "Госьціца" — бадай, адзіны тэатр, які паслядоўна імкнецца ўвасабляць старажытныя народныя традыцыі. Створаны ў 1986 годзе пры Белтэлерадыёкампаніі калектыў праіснаваў да 1 студзеня 2004 года. Без тэатра не абыходзілася ні адно народнае свята — Дзяды, Каляды, Купалле... Было знята больш за 20 іграваў фільмаў з яго ўдзелам. Калектыў неаднойчы прадстаўляў Беларусь за мяжой, збіраў поўныя залы ў Даніі, Нямеччыне, Італіі, Польшчы...*

*На пачатку года кіраўніцтва БДТРК кантракт з музыкамі скасавала. "У вашых паслугах больш не маем патрэбы", — паведамілі* ***Ларысе СІМАКОВІЧ.***

**— Ларыса, зараз ваш тэатр фактычна на вуліцы. Гэта азначае, што "Госьціца" спыніла сваё існаванне?**

— У нас няма памяшкання, няма магчымасці поўнавартасна працаваць, але справа наша жыве. Зараз мы шукаем новыя варыянты працягу нашай дзейнасці. За мяжу, насуперак усім сцвярджэнням, з'язджаць не збіраемся: фальклор-тэатр можа існаваць і развівацца толькі на роднай зямлі.

**— А што ўяўляе сабой беларускі фальклор?**

— Фальклор — закадзіраваная мастацкая інфармацыя стагоддзяў. Уся сутнасць — унутры, і часам даволі цяжка туды зазірнуць. Фальклор вельмі самадастатковая субстанцыя, якую можна спазнаць, абудзіўшы сваю генную памяць. Ведаеце, калі да мяне прыходзілі сталічныя дзеці і пачыналі спяваць аўтэнтычнымі галасамі, я пераконвалася, што ўспрыманне фальклору ідзе менавіта праз генную памяць.

**— Хто складае Вашу аўдыторыю?**

— Пераважна моладзь і адраджэнцы.

**— Калі Вы вырашылі звязаць сваё жыццё з фальклорным жанрам, то ўсведамлялі, што такая творчасць ніколі не будзе разлічана на вялікае кола гледачоў і слухачоў?**

— Безумоўна. Але мы ніколі не змагаліся за масавасць. Мы не папса. Працуючы на патрэбу публікі, ёсць рызыка трапіць у палон штучных патрабаванняў. Мне занадта цесна і нецікава быць на такім узроўні.

**— Вы, можна сказаць, стваральніца беларускага фальк-мадэрн-балета...**

— Так, наш калектыў першым у Беларусі заявіў аб гэтым жанры. Працуючы ў "Госьціцы", я разумела, што калі мы не пойдзем далей, то наш ансамбль непазбежна завершыць сваё існаванне. Любы творчы калектыў, прайшоўшы пэўную цыклічнасць, вычэрпваецца, калі не пачынае працаваць над новымі формамі. Мадэрн — новае мысленне. Такім чынам — фальк-мадэрн-балет — закадзіраваная старажытная інфармацыя, якую мы "чытаем" праз нетрадыцыйнае мысленне.

**— Крыху парадаксальнае спалучэнне даўніны і сучаснасці...**

— Людзі XXI стагоддзя не могуць карыстацца тым спосабам мыслення, якое захаваў у сабе фальклор... Мы мыслім сучаснымі катэгорыямі. Таму дзве палярнасці — даўніна і сучаснасць — у пэўнай кропцы факусуюцца. Зразумейце, што час існуе не толькі гарызантальна, але і вертыкальна. Паганства, што існавала ў дахрысціянскі перыяд, існуе і зараз. Нічога нікуды не знікае... Таму мы — старэйшыя, а не малодшыя: за нашымі плячыма стаіць увесь род. Мы змяшчаем у сабе ўсю тую інфармацыю, усе тыя жыцці, што пражылі нашы продкі.

**— Значыцца, наша пакаленне мудрэйшае за папярэдняе?**

— Так павінна быць. Іншая справа, ці так ёсць... Мы амаль што не карыстаемся спадчынай прадзедаў.

**— А як даведацца пра гэтую спадчыну, як зазірнуць у сваю душу?**

— Позірк трэба звярнуць на сябе. Глядзець не на навакольны свет, а ў свой. Трэба навучыцца слухаць сябе.

**— А каханне... Што ёсць для Вас гэтае пачуццё?**

— Гэта найвышэйшыя вібрацыі, на якія здольная наша душа.

**— Існуе меркаванне, што творчым людзям стан закаханасці патрэбны ўвесь час...**

— Магчыма, творчым людзям асабліва, паколькі ствараць, рабіць штосьці годнае можна толькі ў стане высокіх вібрацый. Каханне — тая энергія, якая прымушае рухацца наперад, уздымае душу ўверх. Чаму так хочацца кахання? Таму што ў звычайным жыцці вельмі не хапае высокіх матэрый.



**— А што рабіць, калі каханне не акрыляе, а прыносіць адны расчараванні?**

— Каханне — гэта справа аднаго, а не дваіх. Галоўная яго функцыя духоўная, а не фізіялагічная. Не палічыце за высокія словы, але дзякуй Богу, калі каханне прыйшло да вас. Яно дапамагае вам адкрыць у сабе новыя старонкі... І няважна, што каханы чалавек не побач, ёсць і іншыя спосабы сустрэчы з ім — праз музыку, зоркі, агульныя ўспаміны. Каханне — вашы новыя магчымасці.

**— Па-Вашаму, кожнаму чалавеку трэба прайсці праз няшчаснае каханне?**

— Не абавязкова. Каханне перастае быць няшчасным, калі чалавек усведамляе, што ў любым выпадку гэта адна радасць. Я б параўнала каханне з ракетаносьбітам.

**— Вы згодны з тым, што беларусы — памяркоўныя. Калі так, то добра гэта ці дрэнна?**

— Мы — кансерватыўныя. Вы ніколі не думалі, чаму самы старажытны фальклор захаваўся менавіта на Беларусі? Дзякуючы нашаму кансерватызму. Вядома, кожнаму народу ўласцівы свае, адметныя рысы. Італьянцы — больш тэмпераментныя, немцы — маўклівыя... Беларусы ж сто разоў усё узважаць і толькі пасля зробяць. Я лічу, што гэта не самая дрэнная рыса.

**— Але зноў жа, кажуць, што менавіта з-за нашай славутай памяркоўнасці мы гатовы трываць усё, што нам насаджаюць. І што мы самі вінаваты ў тым, што адбываецца зараз...**

— Я б так адказала: немагчыма стварыць разбураючы. Мала проста загнаць людзей на выбарчы ўчастак альбо насадзіць якія-небудзь каштоўнасці. Рэвалюцыя павінна адбыцца ў нашых сэрцах. Грамадства павінна прайсці праз пэўныя стадыі эвалюцыі.

Нядаўна, памятаю, пасля рэпетыцыі ў Купалаўскім тэатры выйшла на Кастрычніцкую плошчу: людзі гуляюць, п'юць, танчаць. Я тады падумала, да якога стану трэба давесці народ, каб яму патрэбна было так мала для шчасця...

**— Але гэта наш народ, іншага не дадзена. Дзе выйсце, як абудзіць грамадства ад спячкі?**

— Адказ — у гісторыі чалавецтва, і беларус тут не выключэнне. Гісторыю і мастацтва ствараюць адзінкі. Іх праца ў мітусні не заўважная, але гэтай працы ў рэшце рэшт будзе."Тусоўшчына" з пункту гледжання гісторыі сыходзіць, вечнае — застаецца...

Працэс эвалюцыі нашага грамадства я б параўнала з пляценнем макрамэ... Гэта вельмі доўгая, карпатлівая праца, трэба акуратна сплесці ўсе петлі, ніводнай не прапусціць. Так і ў беларусаў — доляй наканавана плесці жыццёвыя петлі. Але рана ці позна вынік будзе.

**— Ларыса, а ў чым, на Ваш погляд, галоўная функцыя мастацтва?**

— Як і любой творчасці — у пераўтварэнні чалавечай душы. Мастак не павінен ісці на патрэбу соцыуму. Сапраўдныя мастакі таму такія і бедныя. Узняўшыся да пэўнай духоўнай вышыні, творца разумее, што вышэй гэтага палёту ў жыцці няма...

**— Але матэрыяльны стымул таксама немалаважны...**

— Ведаеце, калі ў мяне пытаюцца, колькі грошай каштуе той ці іншы канцэрт, я адказваю, што грашовага эквіваленту музыцы няма!

**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**

# Еўрапейскі Саюз:

## учора, сёння, заўтра

*(Працяг. Пачатак на 3-й стар.)*

Для маладых палякаў інтэграцыя з Еўрасаюзам азначае магчымасць вольнага навучання за мяжою. Грамадзяне гэтай краіны будуць трактаваныя ў навучальных установах ЕС, як любыя іншыя грамадзяне аб'яднанай Еўропы. Напрыклад, калі малады паляк паедзе вучыцца ў Францыю, Германію ці Іспанію, то будзе плаціць там за навучанне столькі ж, колькі француз, немец ці іспанец, а таксама будзе мець магчымасць атрымліваць стыпендыі ды сацыяльную дапамогу. Пры гэтым трэба заўважыць, што ў большасці саюзных краін вучоба ў дзяржаўных школах, ліцэях і універсітэтах з'яўляецца бясплатнай. Ну і, натуральна, не патрэбная будзе палякам ніякая віза, бо з 1 мая 2004 года яны становяцца грамадзянамі Еўропы.

Хто дакладна ў гэтай краіне ў найбольшай ступені выйграе ад інтэграцыі, будзе відаць ужо праз некалькі год, але ўжо сёння ў Польшчы разлічваюць, што перадусім гэта будзе:

* Моладзь. Зможа вучыцца ў школах і ВНУ на тэрыторыі ўсяго Саюза, а дыпломы, атрыманыя ў польскіх навучальных установах, будуць прызнавацца ва ўсёй аб'яднанай Еўропе. З'явяцца большыя магчымасці для міжнародных абменаў вучнямі, студэнтамі, настаўнікамі. Тыя з выпускнікоў польскіх вучэльняў, хто будзе гатовы да пераездаў, змогуць распачаць працу ў любой краіне Саюза, дзе іх веды будуць запатрабаваныя.

* Сяляне. Усе польскія земляробы атрымаюць даплаты на кожны гектар, які яны абрабляюць, а тыя, хто будзе выраблять прадукцыю, датаваную з бюджэту Еўрасаюза, будуць атрымліваць даплаты і за гэтую прадукцыю. Сяляне змогуць карыстацца сродкамі з фондаў мадэрнізацыі сельскай гаспадаркі. Еўрапейскі Саюз выдаткоўвае вялікія сумы грошай на рэструктурызацыю вёскі, развіццё вясковай інфраструктуры, прафесійную адукацыю, выраб экалагічнай прадукцыі, на больш раннія пенсіі для земляробаў.

* Прадпрымальнікі. Пасля ліквідацыі мытных бар'ераў палегчыцца як экспарт тавараў, зробленых у Польшчы, так і імпарт тавараў і новых тэхналогій, якія будуць садзейнічаць павышэнню канкурэнтаздольнасці польскай гаспадаркі.

З'явіцца магчымасць атрымання сродкаў з саюзных фондаў, палегчыцца доступ да танных банкаўскіх крэдытаў. Польскія фірмы стануцца больш прывабнымі ў вачах сваіх замежных контрагентаў.

Урэшце, можна сказаць, што большасць палякаў упэўненая: інтэграцыя з Еўрасаюзам будзе карыснай для ўсіх іх. Прыход новых тэхналогій будзе спрыяць развіццю польскай эканомікі, што мусіць прывесці да змяншэння беспрацоўя і паляпшэння матэрыяльнага становішча грамадзянаў. Польшча станецца краінай, больш прыцягальнай для замежных інвестараў. Палякі атрымаюць права свабодна сяліцца і знаходзіць працу ў любой краіне Еўрасаюза, вольна перамяшчацца па Еўропе. Увядзенне ў жыццё шмат якіх саюзных нормаў паспрыяе як ахове і паляпшэнню стану навакольнага асяроддзя, так і паляпшэнню якасці польскіх прадуктаў жывёлагадоўлі і раслінаводства. З дапамогай структурных фондаў і іншых праграм дапамогі мусіць палепшыцца дарожная і транспартная інфраструктура.

Такім чынам, большая частка польскага грамадства гатовая падзяліць думку пра тое, што інтэграцыя іх краіны з Аб'яднанай Еўропай з'яўляецца шанцам на паляпшэнне іх жыцця, і пагадзіцца з Тадэвушам Паўлякам у тым, што "выгадаў ад уваходжання ў Еўрасаюз будзе, несумненна, больш, чым нейкіх негатыўных наступстваў".

*(Матэрыял падрыхтаваны на падставе праекта "Еўрапейскі Саюз: што гэта такое?" пад рэдакцыяй* **Ігара ЛЯЛЬКОВА).**

*(Працяг будзе.)*

# Шлях за Кубкам свету пачынаецца з Нарвегіі

*Зусім хутка, 8 верасня, нацыянальная зборная Беларусі па футболе матчам супраць зборнай Нарвегіі возьме старт у адборачным турніры да чэмпіянату свету-2006 года. Матч пройдзе ў Осла на стадыёне "Уллевал" і распачнецца ў 21.00 па беларускім часе.*

Галоўны трэнер беларускай зборнай Анатоль Байдачны выклікаў на матч 23 футбалісты:

**Галкіперы** — Васіль Хамутоўскі (1978 год нараджэння; Сцяуа, Бухарэст, Румынія; 8 гульняў за зборную), Аляксандр Суліма (1979; Нёман, Гродна; 3), Юрый Жаўноў (1981; БАТЭ, Барысаў; 1); **Абаронцы** — Сяргей Штанюк (1973; Шыннік, Яраслаўль, Расія; 49 гульняў/2 галы), Дзмітрый Раўнейка (1980; Ротар, Валгаград, Расія; 9/0), Ігар Тарлоўскі (1974; Аланія, Уладзікаўказ, Расія; 16/1), Сяргей Ясковіч (1972; Масква, Расія; 22/0), Сяргей Гурэнка (1972; Лакаматыў, Москва, Расія; 68/3), Андрэй Лаўрык (1974; Амкар, Перм, Расія; 27/0), Аляксандр Шагойка (1980; Гомель; 0/0); **Паўабаронцы** — Сяргей Амельянчук (1980; Арсенал, Кіеў, Украіна; 14/0), Максім Рамашчанка (1976; Дынама, Масква, Расія; 42/10), Уладзімір Карыцька (1979; Аланія, Уладзікаўказ, Расія; 5/0), Дзяніс Коўба (1979; Крылы Саветаў, Самара, Расія; 14/1), Вячаслаў Глеб (1983; Гамбург, Германія; 1/1), Аляксандр Кульчый (1973; Шыннік, Яраслаўль, Расія; 43/3), Аляксей Сучкоў (1981; Карпаты, Львоў, Украіна; 0/0), Дзяніс Сашчэка (1981; Тарпеда, Жодзіна; 0/0); **Нападаючыя** — Віталь Кутузаў (1980; Сампдорыя, Генуя, Італія; 18/5), Віталь Булыга (1980; Амкар, Перм, Расія; 6/2), Генадзь Блізнюк (1980; Сокал, Саратаў, Расія; 2/1), Леанід Ковель (1986; Дынама, Мінск; 1/0), Раман Васілюк (1978; Дынама, Брэст; 16/7).

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

2

верасень

ЧАЦВЕР
Усх. 6.19 Зах. 19.58
Даўж. дня 13.39
Поўня 30 жніўня

**65 гадоў** таму пачалася другая сусветная вайна

ШАШКІ

## Рэсурсы для абароны

Класіфікацыйны конкурс-15 працягваем сёмым заданнем — пазіцыяй майстра спорту з Наваполацка **Пятра ШКЛУДАВА** на яго прызы:

**Белыя:** b6, c5, g3, h4 (4).

**Чорныя:** c7, d8, e3, e7 (4).

Ход белых. Ці ёсць у чорных рэсурсы для абароны? Заданне ацэньваецца ў тры ачкі. Калі будзе жаданне, пераўтварыце пазіцыю ў кампазіцыю.

Тэрмін для адказаў — традыцыйных два тыдні. Чакаем іх па адрасе: **220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а, рэдакцыя газеты "Народная воля", "Шашкі".**

## Супаставім рашэнні

Праверце, калі ласка, рашэнні пазіцый, змешчаных 1 ліпеня.

**"Новы конкурс".** Заданне № 1 класіфікацыйнага конкурсу-15 (П.Шклудаў): dc7, g7, d2, c3x.

**"Практыкам на заметку".** А.Зялінскі—А.Кагоцька: раней белыя памыліліся 5.c1-d2. І.Ліпай—В.Якусевіч: белыя маглі выйграць 1.fe3 bc7 2.ed4 cb6 3.cd6 ba5 4.de7! ab4 5.ef8 ba3 6.ab8 ab2 7.bg3 8.de5 9.f:c1x.

Першымі правільныя рашэнні прыслалі: В.Грабенка, І.Мацкевіч, С.Краіла, П.Чэрнак, П.餐Каролік, У.Захарчук, А.Ашыхмін, А.Ляхоўскі, У.Сапяжынскі, А.Кагоцька, А.Перавознікаў, Г.Логвінаў, А.Янчук, А.Белы, М.Падбярэзскі, М.Клязовіч, А.Сняжкоў, Аляксандра Камінская, А.Пярхальскі, Л.Жыхар, У.Сергіеня, В.Кардаш, В.Масквіч, М.Гардзіеўскі, Ч.Сінкевіч, А.Чумакоў, У.Таратушкін, М.Андрушчанкаў, Ф.Хадачынскі, В.Дзялендзік, В.Краўчук, Д.Камчыцкі, а таксама С.Курапатаў з Ямала-Ненецкай аўтаномнай акругі.

*"Для мяне "Народная воля" — не толькі любімая рубрыка самай народнай гульні, а яшчэ і глыток свежага паветра",* — піша Пётр Чэрнак з Брэста.

*"Спадзяюся, што рэдакцыя вытрымае ўсе нападкі тых, хто так хоча ліквідаваць адзіную незалежную газету,* — пачынае свой ліст з рашэннямі шашачных заданняў Васіль Дзялендзік з Бабруйска. — *Жадаю супрацоўнікам "Народнай волі" здароўя для мужнасці і творчых поспехаў!".*

## Шошынская атака

Як абяцалі, змяшчаем партыю паміж кандыдатамі ў майстры спорту Барысам Абрамавым і Вільямам Астрынскім, якая адбылася ў мінскім парку імя Чэлюскінцаў: 1.cb4 fg5 2.gf4 gf6 3.bc3 fe5 4.ba5 5.h:f4 hg7 6.ab2? ef6 7.fg3 gh4 8.ed4 9.g:e3 dc5?! Чорныя пайшлі на рызыку, каб на вачах балельшчыкаў прадэманстраваць шошынскую (легендарны шашыст Шошын) разгромную камбінацыю (лепш было 9... de7). Паколькі мікраматч быў маланкавым, белыя "клюнулі": 10.ef2? cb4 11.a:c5 hg5 12.f:h6 fe7 13.h:d6 14.a:c7 b:b4 15.c:a5 e:g3x.

## «Етвызь-2004»

Пад такой прыгожай назвай у Драгічыне ладзіўся традыцыйны рэспубліканскі турнір. У ім прынялі ўдзел 56 ігракоў з усіх рэгіёнаў краіны, у тым ліку 12 майстроў спорту.

Упэўненую перамогу атрымаў Яўген КАНДРАЧЭНКА з Гомеля, які набраў 15 ачкоў з 18 магчымых (+6 з 9). Ён жа выйграў і бліцтурнір — прычым трэці раз падрад.

Другое-чацвёртае месцы падзялілі мінчане Вячаслаў Палянскі і Юрый Файнберг, Васіль Навумік з Ваўкавыска (па +4), пятае-сёмае (па +3) — мінчане Уладзімір Беляеўскі і чэмпіён Беларусі Кірыл Хайнюк, Аляксандр Андрыянаў (Ваўкавыск). Так усіх расставіў каэфіцыент. Восьмае прызавое месца заняў Мікалай Піцуха з Драгічына.

Турнір прайшоў на высокім узроўні дзякуючы падтрымцы старшыні райвыканкама Васіля Міхайлавіча Хваціка і арганізатарскім здольнасцям міжнароднага майстра Васіля Нагурнага.

І, канешне, вострыя сюжэты не маглі абысці гэты турнір:

**1.Белыя** (Віктар Бялецкі, Бяроза): a1, b2, c1, c3, e3, f4, g3, h4 (8).

**Чорныя** (Ю.Файнберг): a3, a5, b6, b8, d6, d8, f6, f8 (8).

Тут белыя згулялі лагічна 1.fg5, на што чорныя адказалі ашаламляльным ходам і ...ab4!!x. Нейкі нязгасны талент у пяціразовага чэмпіёна Беларусі Юрыя Файнберга!

**2.Белыя** (Віктар Кржывіцкі, Мінск): a1, a3, b2, c3, d2, e3, f4, g1, g3, h2, h4 (11).

**Чорныя** (Я.Кандрачэнка): a5, b8, c7, d6, d8, e7, f6, f8, g5, h6, h8 (11).

У партыі быў зроблены не мацнейшы ход 1...cb6. Па-за гульнёй жа застаўся працяг 1...dc5! 2.cd4 fe5!!, пасля чаго ў белых чатыры баі і ўсе прайграюць. Было б не менш выразна, чым у №1!. Адно суцяшэнне, што чорныя самі звярнулі ўвагу на такую крутую развязку.

Аб усім гэтым паведамілі па тэлефоне, як кажуць, непасрэдныя "віноўнікі ўрачыстасці" — нашы пастаянныя карэспандэнты Юрый Файнберг і Яўген Кандрачэнка.

## Сюрпрызы

Мы ўжо друкавалі кароткае, але ёмістае па змесце пісьмо Івана Мельніка: *"Зазірнуў неяк у бібліятэку і ўбачыў цэлы стос газет "Народная воля" на стале ў аднаго з чытачоў, які расказаў, што нехта падпісаў нас на яе. На жаль, яна знікла — можа, дабрачынная падпіска скончылася. А шкада, бо надта хораша выглядала "Народная воля" сярод іншых выданняў".*

*"Зайшоў у бібліятэку і быў прыемна здзіўлены, калі ўбачыў падшыўку "Народнай волі". Спытаў, з якога часу падпісаліся? Мне адказалі, што на "Народную волю" няма ліміту, а кожны дзень з дому прыносіць і падшывае свой уласны экземпляр газеты адзін пенсіянер, былы настаўнік,* — дадае другі наш канкурсант Павел Каролік. — *Калі я збіраў подпісы за Зянона Пазьняка, гэты шчыры сябра "Народнай волі" мяне гасцінна сустрэў у сваёй кватэры, пачаставаў гарбатай".*

**Мікалай ГРУШЭЎСКІ, майстар спорту.**

ШАХМАТЫ

## Этюдный шедевр

Познакомьтесь с этюдной миниатюрой российских шахматных композиторов Б.Гусева и К.Сумбатяна. Композиция была признана лучшим этюдом 1998 года в мире!

**Белые:** Кра8, Сh5, Ка1, п. b5 (4).

**Черные:** Кра4, Лd2 (2).

**Выигрыш.**

1.b6 Кра3! (Лучшая защита. Не помогает 1...Лa2 2.b7 Крb5+ 3.Крb8 Л:a1 4.Крc8! Лc1+ 5.Крd7 или 1...Лd5 2.Сf3 Лa5+ 3.Крb7 Крb4 4.Кc2+! Крc3 5.Крc6 Кр:c2 6.b7 Лa6+ 7.Крc5! Лa5+ 8.Крb4 Лa2 9.Сe4+ Крc1 10.Сd5! Лb2+ 11.Сb3! (2.b7 Лd8+ 3.Кра7 Крb2! 4.Сg4! Лe8) или 4...Кр:a1 5.Сc8 Лd2 6.b8Ф Лa2 7.Сa6!) 5.Сd7! Лf8 6.Кb3! Кр:b3 7.Сc8! Лf7 8.Сe6+ 9.С:f7, 5...Лh8 6.Кc2! Кр:c2 7.Сc8! Лh7 8.Сf5+ Крc3 9.С:h7.

## Шахматная элита
### Рейтинги сильнейших шахматистов мира

С 1983 года рейтинг-лист ФИДЕ бессменно возглавляет Гарри Каспаров. И хотя в последнее время гроссмейстер несколько снизил свои турнирные показатели, Каспаров тем не менее продолжает уверенно лидировать с рейтингом 2817. На второй позиции закрепился лучший шахматист 2003 года экс-чемпион мира ФИДЕ Вишванатан Ананд (Индия) — 2782. Лишь третьим в списке действующий чемпион мира россиянин Владимир Крамник — 2770. В сорок лучших в мире входят также гроссмейстеры: 4.Александр Морозевич (Россия) — 2743, 5.претендент на звание чемпиона мира Петер Леко (Венгрия) — 2741, 6.Майкл Адамс (Англия) — 2738, 7.Веселин Топалов (Болгария) — 2737, 8.сильнейшая в мире шахматистка Юдит Полгар (Венгрия) — 2728, 9.чемпион России Петр Свидлер — 2727, 10.Алексей Широв (Испания) — 2725, 11.экс-чемпион мира ФИДЕ Руслан Пономарев (Украина) — 2722, 12.Василий Иванчук (Украина) — 2715, 13.Евгений Бареев (Россия) — 2715, 14.Этьен Бакро (Франция) — 2712, 15.Борис Гельфанд (Израиль) — 2709, 16.Александр Грищук (Россия) — 2705, 17.Владимир Акопян (Армения) — 2692, 18.Алексей Дреев (Россия) — 2690, 19.Сергей Рублевский (Россия) — 2686, 20.Ливиу-Дитер Нисипяну (Румыния) — 2686, 21.Найджел Шорт (Англия) — 2684, 22.Вадим Милов (Швейцария) — 2683, 23.экс-чемпион мира Анатолий Карпов (Россия) — 2682, 24.Е.Цзянчуань (Китай) — 2681, 25.Люк Ван Вели (Голландия) — 2680, 26.Иван Соколов (Голландия) — 2679, 27.Александр Белявский (Словения) — 2679, 28.Эмиль Сутовский (Израиль) — 2679, 29.Франциско Вальехо (Испания) — 2679, 30.Зураб Азмайпарашвили (Грузия) — 2679, 31.Владимир Малахов (Россия) — 2674, 32.Левон Аронян (Армения) — 2671, 33.Предраг Николич (Босния) — 2671, 34.Илья Смирин (Израиль) — 2671, 35.экс-чемпион мира ФИДЕ Александр Халифман (Россия) — 2669, 36.Михаил Гуревич (Бельгия) — 2667, 37.Жоэль Лотье (Франция) — 2666, 38.сильнейший белорусский гроссмейстер Алексей Александров (Минск) — 2666, 39.Кришнан Сашикиран (Индия) — 2666, 40.Константин Сакаев (Россия) — 2664. Такой же рейтинг имеет 17-летний бакинский гроссмейстер Теймур Раджабов.

В первую сотню рейтинг-листа входит и гроссмейстер из Могилева Алексей Федоров — 2620, занимающий 83-е место.

Наибольшее представительство в элитной сотне имеет Россия — 22. У Украины — 6 мест, Армении — 5, США, Германии, Венгрии, Франции — по 4, Англии, Испании, Китая, Голландии, Израиля, Польши — по 3, Беларуси, Индии, Грузии, Кубы, Казахстана, Азербайджана, Дании, Молдовы — по 2, еще 15 стран — по одному представителю.

## Гроссмейстерская победа

Мы сообщали о победе московского гроссмейстера Александра Морозевича на турнире в Биле (Швейцария). Напомним, что там россиянин набрал в 10 партиях 7,5 очка легко завоевал первый приз, не проиграв в турнире ни одной партии. А ведь соперниками Морозевича были известные гроссмейстеры экс-чемпион мира Руслан Пономарев (Украина), Кришнан Сашикиран (Индия), Этьен Бакро (Франция), Янник Пелетье (Швейцария) и Люк МакШейн (Англия).

Приводим одну из партий Морозевича, выигранную на этом турнире.

### Я.Пелетье—А.Морозевич
### Французская защита

1.e4 e6 2.d4 d5 3.Кc3 de 4.К:e4 Кd7 5.Кf3 Кgf6 6.Сd3 c5 7.К:f6+ К:f6 8.dc С:c5 9.Фe2 o-o 10.Сg5 h6 11.h4 Фa5+ 12.Сd2 Фb6 13.o-o-o e5! 14.К:e5 Лe8 15.Кc4. Заслуживало внимания 15.Сc3. 15...Фa6! 16.Фf3 Сg4 17.Фg3 Ф:a2 18.Сc3 Кe4 (Здесь очень сильно было 18...Лad8! Например: 19.С:f6 Фa1+ 20.Крd2 Сb4+ 21.c2 Лe2x!, 19.Кa3 Сd6 20.f4 Кd5 21.Сe5 С:a3 22.Ф:g4 Л:e5 23.fe Ф:b2+ 24.Крd2 Сb4+ 25.Крe2 Ф:e5+ 26.Сe4 Кc3+) 19.С:e4 Л:e4 20.Кd2 Лd4 21.С:d4 С:d4 22.Фb3 Фa1+ 23.Кb1 С:d1 24.Л:d1 С:f2 25.Лd7 Лf8 26.h5? (Необходимо было играть 26.Фa3 с разменом ферзей, хотя и тогда черные сохраняли шансы на победу.) 26...Фa5. (Грозит 27...Фe1+ 28.Лd1 Сe3+ 29.Кd2 С:d2+!) 27.Кc3 Ф:h5 28.Ф:b7 Лe8 29.Крb1 Сb6 30.Кра2 Фf5 31.Крb3 Лe3 32.Фd5 Лe5 33.Фd6 Лc5 34.Фe7 Лc8 35.Фd6 Лe8 36.Фd5 Фg6 37.Кра2 Лe3 38.Фa8+ Крh7 39.Фd5 Лe6 40.Фd2. В этой трудной позиции белые просрочили время и им было зачтено поражение.

## Три победителя

В Минске в Центре олимпийской подготовки по шахматам и шашкам прошел турнир по быстрым шахматам. Соревнования проводились по швейцарской системе в 9 туров при 40 участниках. Со старта турнирную таблицу возглавил кандидат в мастера из Борисова Виктор Тахиров, победивший в 5 первых турах. Лишь на финише самым титулованным участникам удалось настичь лидера. В итоге, набрав по 7 очков из 9 возможных, сразу три участника финишировали вместе. По дополнительным показателям первый приз был присужден В.Тахирову, второй — международному мастеру Валерию Смирнову, третий — мастеру спорта Андрею Малюшу.

## Четверг, 2 сентября

**БТ**

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 14.00, 15.00, 17.00, 18.00, 23.00** Новости.
**07.05, 07.35, 08.10, 08.35** "Доброе утро, Беларусь!".
**07.30, 08.30, 20.00** "Деловая жизнь".
**09.05, 20.05 "Возвращение Мухтара".** Сериал.
10.05 "Спасатели".
**10.30** "Школа на свежем воздухе". Сериал.
**11.05, 18.15 "Богатые и знаменитые".** Сериал.
**12.10 "Расписание на послезавтра".** Киноповесть.
**13.35** "Откровения" Д.Смольского. Док.фильм.
**14.05** "Песня не про пять минут". Видеофильм АТН.
**14.15** "Путешествие дилетанта".
**14.45** "Слово для дебютанта".
**15.15 "Команда "SOS"**. Сериал.
**16.05** "5х5".
**17.05** "Школа на свежем воздухе". Сериал.
**17.30** "Новая коллекция Олега Лукашевича".
**19.10** "Сфера интересов".
**19.35** "Судьба человека".
**21.00** "Панорама".
**21.50** "Права человека. Взгляд в мир.
**22.00 "Клуб похитителей".** Комедия.

**ОНТ**

**07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 18.00, 20.30, 23.00** "Наши новости".
**07.05** "Наше утро".
**09.05, 19.05 "Клон".** Сериал.
**09.55, 18.10** "Дом". Реалити-шоу.
**10.45** "Дисней-клуб".
**15.30 "Ангел на дорогах".** Сериал.
**16.25 "Женщины в любви".** Сериал.
**17.15** "Вера Мухина. Испытание". Док.фильм.
**20.00** "Время".
**21.00 "Черный ворон".** Сериал.
**22.05 "Улицы разбитых фонарей".** Сериал.
**23.15 "Доктор Живаго".** Сериал.

**РОССИЯ**

**07.45, 19.55 "Каменская-3".** Сериал.
**08.45, 16.50 "Ундина-2. На гребне волны".** Сериал.
**09.45, 18.50** "Вести. Дежурная часть".
**10.00, 16.00, 19.00** "Вести".
**10.30, 19.30, 22.00** "Местное время. Вести — Москва".
**10.50 "Бедная Настя".** Сериал.
**11.50** "Что хочет женщина". Ток-шоу.
**16.20** "Кулагин и партнеры".
**17.50 "Марш Турецкого".** Сериал.
**19.50** "Спокойной ночи, малыши!".
**21.00 "Красная капелла".** Сериал.
**22.20** "Танец со смертью".
**23.15 "Елизавета".** Драма.

**ЛАД**

**06.30** EURONEWS.
**08.00, 14.00, 20.45** Новости.
**08.10** "Наше наследие".
**08.20** "Апокриф". Ток-шоу.
**09.00** "Эпизоды". Михаил Филиппов.
**09.45, 17.55 "Долгое жаркое лето".** Сериал.
**10.30, 15.40** Мультфильмы.
**10.55, 18.55 "За кулисами".** Сериал.
**11.45** "Обычный необычный день".
**12.15 "Академик Иван Павлов".** Худ.фильм.
**14.10** "Свет далекой звезды".
**14.40** "Мультиклуб".
**15.05** Не зевай!".
**15.15** "Бум".
**16.05 "Нежный возраст".** Сериал.
**16.35** "Живые камни". Док.сериал.
**17.00** "Августовский канал: связь времен". Видеофильм АТН.
**17.10** "Из архивов БТ".
**17.25** "Площадь искусств".
**19.45** "Дела семейные".
**20.30** "Колыбельная".
**21.00** "Культурная революция".
**21.55** "Атланты в поисках истины".
**22.20** Хоккей. Кубок мира-2004. Германия—Финляндия.

**НТВ**

**09.00, 15.00, 18.00, 23.30** "Сегодня".
**09.20** "Преступление в стиле "Модерн".
**09.55** "Кулинарный поединок".
**10.55, 18.40 "Улицы разбитых фонарей-6".** Сериал.
**15.20** "Принцип домино".
**16.25 "Таксист".** Сериал.
**17.35** "Криминальная Россия".
**19.50 "Место под солнцем".** Сериал.
**21.00** "Страна и мир".
**21.40** "К барьеру!".
**22.55 "Нет выхода".** Триллер.

**СТВ+RenTV**

**06.20, 18.00** "Минщина. Люди, события, факты".
**06.35** "Близнецы судьбы". Мультсериал.
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50, 20.00** "СТВ-спорт".
**08.00** "Светская хроника".
**08.15, 23.10** "Технология".
**08.25** "Судьбы своей хозяйка".
**08.50** Рыцари света". Мультсериал.
**09.15** "Затерянный мир". Приключенческий фильм.
**10.50** "Проект "Отражение". Док.фильм.
**11.40** "Ecce Homo".
**12.00** "Час суда".
**12.45** "Дикая планета". Док.фильм.
**13.50, 18.30 "Пассажир без багажа".** Сериал.
**14.45 "ОБЖ, или Особенности жанра". "ОБЖ или Один и без оружия".** Сериал.
**15.45** "Маска". Мультсериал.
**16.15** "Добро пожаловаться...".
**17.00 "Зачем тебе алиби?".** Сериал.
**18.15** "Театральные истории".
**20.15** "Тема дня".
**20.30** "Добрый вечер, малыш".
**20.55 "Воин мечты".** Боевик.
**23.20** "Турпоход".
**23.30** "Новости мировой шоу-индустрии".
**00.15 "Секретные материалы".** Сериал.
**01.00** "Новости СНГ".

**8-Й КАНАЛ**

**07.00, 16.45 "Не будите спящую собаку".** Сериал.
**08.10, 17.50, 21,00** "Телемагазин".
**08.15** "Программа мультфильмов".
**09.15, 19.45** "Атомик Филмз" и "К-видео" представляют...
**09.20** "Трюкачи Голливуда".
**09.40, 19.50 "Горец".** Сериал.
**10.30, 21.10** "Американская дочь". Худ.фильм.
**16.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**18.00 "Возвращение дракона".** Боевик.
**20.45** "Вечарніца".

**ТВ ЦЕНТР**

**04.45, 06.30** "Настроение".
**07.35** "Газетный дождь".
**07.45 "Особо опасные".** Детектив.
**09.20, 15.30** Мультфильмы.
**09.40** "Войди в свой дом".
**09.45** "Телемагазин".
**10.00, 13.00, 17.00, 21.00** "События. Время московское".
**10.15** "Дата".
**11.10** "Отдел "Х".
**11.50** "Квадратные метры".
**12.05, 23.00** "Петровка, 38".
**12.25** "Деловая Москва".
**13.15 "Инспектор Кресс".** Сериал.
**14.20, 18.40** "Экспо-новости".
**14.30** "Музыкальный серпантин".
**15.00** "Регионы: прямая речь".
**16.00 "Комиссар Мулен".** Сериал.
**17.15** "21-й кабинет".
**18.00 "Таковы эти женщины".** Сериал.
**18.50** "Пять минут деловой Москвы".
**18.55 "Криминальный дуэт".** Детектив.
**20.40** "Районная столица".
**21.40** "Секретные материалы: расследование ТВЦ".
**22.30** "Времечко".
**23.20** "25-й час. События. Время московское".
**23.40** "Супердиск".
**00.00 "Ханжество".** Триллер.

**EUROSPORT**

**09.30** Экстремальный спорт. "Молодежная зона".
**10.00** Парусный спорт. "Под парусами".
**10.30** Гольф. Европейский турнир в Германии.
**11.00** Гольф. Турнир PGA в США.
**12.00** Конный спорт. Кубок наций "САМСУНГ" в Бельгии.
**13.00** Ралли. Чемпионат мира в Японии.
**13.30** Тяжелая атлетика. Олимпийские игры.
**14.45** Теннис. "Новичок".
**15.00, 18.00, 01.00** Теннис. US Open.
**00.45** Новости "Евроспорта".

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс(017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04, 206-69-06.**
**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**


Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №246 ад 10 кастрычніка 1996 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на ААТ «Красная звезда», 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 27 550 экз. Заказ № 723.